ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК

СНЕЖАНЬ, **2011**

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

**Стэфановіч абскарджвае рашэнне падаткавікоў пра штраф**
СТАР. 3

**Праваабаронцы падвялі вынікі парушэнняў у Гомельскім рэгіёне**
СТАР. 4



# Лідар “Вясны” прызнаны праваабаронцам года

**13 снежня вядучыя праваабарончыя арганізацыі Беларусі ўручылі нацыянальную прэмію за выключныя дасягненні ў галіне абароны правоў чалавека - у намінацыях “Праваабаронца года 2011”, “Адвакат года 2011” і “Журналіст года 2011”. Адвакатамі года абвешчаныя Марына Кавалеўская і Дар'я Ліпкіна, журналістамі года майстры фота Юлія Дарашкевіч і Уладзь Грыдзін.**

**Узнагароду кіраўніку Праваабарончага цэнтра “Вясна” Алесю Бяляцкаму калегі перадалі яго жонцы Наталлі.**

**Прымаючы ўзнагароду, Наталля адзначыла, што апошнім часам ёй даводзіцца атрымліваць за Алеся шмат розных прэміяў, аднак сённяшнюю, ад беларускіх калегаў, яна назвала нашмат каштоўнейшай за астатнія.**

**Нацыянальная прэмія ў галіне правоў чалавека пераемніца прафесійнай прэміі, заснаванай "Праваабарончым альянсам".**

**Сёлета намінантаў вызначалі прадстаўнікі васьмі беларускіх праваабарончых арганізацыяў, сярод якіх Дом правоў чалавека, ПЦ “Вясна”, Беларускі Хельсінкскі камітэт, Беларуская асацыяцыя журналістаў, Цэнтр прававой трансфармацыі, Камітэт абароны рэспрэсаваных “Салідарнасць”, Цэнтр правоў чалавека.**

**spring96.org**

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ ПЕРАДАЕ ЎСІМ СЛОВЫ ПАДЗЯКІ І КАЖА: **“НЯ БОЙЦЕСЯ!”**

*Ад асуджанага да чатырох з паловаў гадоў пазбаўлення волі Алеся Бяляцкага прыйшоў ліст, напісаны праваабаронцам 30 лістапада ўжо пасля вынясення прысуду, але яшчэ да пераводу з турмы на Валадарскага ў Жодзіна.*

*Пасля судовага працэсу ён паціху пачаў вяртацца да сваіх звычыйных заняткаў ангельскай мовы, чытання і адпісвання на лісты, якіх без адказу накапілася даволі шмат. Пачувае сябе палівязень даволі спакойна, чаго моцна жадае і ўсім сваім калегам.*

*Алесь упэўнены, што той бруд, які вылілі на яго афіцыйныя СМІ, сплыў і не запэцкаў яго, а вось магутная падтрымка розных знаёмых і незнаёмых людзей моцна падтрымлівала:*

***“Такое адчуванне, што гэты суд быў патрэбны, каб спраўдзіць і праверыць ці тое мы рабілі ўсе гэтыя 15 гадоў. А на 10 снежня мне для ўсіх хочацца паўтарыць, для ўсіх: “Ня бойцеся!” Гэта тое, што сказаў у 80-я папа Ян Павал II, калі прыехаў у камуністычную Польшчу. Больш ён нічога тады не сказаў, але і гэтага хапіла”.***

*Таксама Алесь Бяляцкі піша, што рыхтуецца да этапу, а паколькі Беларусь маленькая краіна, то далёка не ўвязуць. Палітвязень шле ўсім прыхільнікам гарачае прывітанне і падзяку.*

***“У мяне такое адчуванне, асабліва пасля таго, як на судзе шмат каго пабачыў, што я ўвесь гэты час быў з вамі…”***

**spring96.org**



# Зварот прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці

## з нагоды пачатку збору сродкаў для праваабаронцы Алеся Бяляцкага

24 лістапада 2011 г. судом Першамайскага раёна Мінска віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі быў прыгавораны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

**Нягледзячы на абстрактны характар абвінавачання, абсалютную адсутнасць доказаў, вялікую колькасць працэсуальных парушэнняў, супярэчанне абвінавачання беларускаму заканадаўству і міжнародным абавязкам Рэспублікі Беларусь, суд беспадстаўна прызнаў вінаватым Алеся Бяляцкага ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры, праігнараваўшы аб'ектыўныя сведчанні пра тое, што замежныя сродкі накіроўваліся не на ягоную карысць, а выключна на вызначаныя мэты праваабарончай дзейнасці.**

У сувязі з гэтым дадзеныя сродкі не з'яўляліся аб'ектам падаткаабкладання. Насуперак заканадаўству суд прызнаў сродкі, накіраваныя Праваабарончаму цэнтру "Вясна" у якасці дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсіяў і парушэнняў правоў чалавека, асабістым прыбыткам Алеся Бяляцкага. Працэс па справе старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" ў чарговы раз паказаў, што ў Беларусі адсутнічае незалежны і аб'ектыўны суд.

Алесь Бяляцкі не прызнае сваёй віны ў інкрымінаваным яму злачынстве і настойвае на сваім апраўданні. Прысуд абскарджаны згодна з заканадаўствам у касацыйным парадку ў Мінскі гарадскі суд.

Мы, прадстаўнікі беларускай грамадзянскай супольнасці, асуджаем незаконны прысуд Алесю Бяляцкаму і, улічваючы палітычную матываванасць справы, лічым, што ў дадзенай сітуацыі неабходна прыкласці ўсе намаганні для найхутчэйшага яго вызвалення.
Мы заклікаем беларускае грамадства праявіць салідарнасць з Алесем Бяляцкім і Праваабарончым цэнтрам "Вясна", які ў экстрэмальных умовах вось ужо 15 год бароніць правы беларускіх грамадзянаў.

У сувязі з гэтым, з мэтай найхутчэйшага вызвалення Алеся Бяляцкага ці як мінімум змены меры стрымання альбо змякчэння надзвычай жорсткага прысуду, мы распачынаем кампанію па зборы сродкаў, якія былі прысуджаныя Алесю Бяляцкаму да выплаты ў якасці "шкоды, нанесенай злачынствам".

*Сума, якую неабходна сабраць, складае 757.526.717 (семсот пяцьдзесят сем мільёнаў пяцьсот дваццаць шэсць тысяч семсот сямнаццаць) рублёў.*

Гэтую суму важна ўнесці да разгляду касацыйнай скаргі ў Мінскім гарадскім судзе, таму сабраць неабходныя сродкі мы просім як мага хутчэй, на працягу бліжэйшых некалькіх тыдняў, каб гэта магло паўплываць на вызначэнне касацыйнай інстанцыі.

Сума, якую неабходна ўнесці, сапраўды вельмі вялікая, але пасільная, калі беларускае грамадства праявіць свае найлепшыя якасці салідарнасць, адказнасць, імкненне і волю да справядлівасці.

*Мы падкрэсліваем, што пералічэнне гэтых грашовых сродкаў не азначае прызнання віны Алесем Бяляцкім гэта толькі наша салідарная акцыя, накіраваная на вызваленне незаконна асуджанага праваабаронцы.*

Грошы ў любым памеры могуць быць пералічаныя на рахунак, адкрыты на імя жонкі Алеся Бяляцкага:

*Філіял №529 "Белсвязь" ААТ "АСБ Беларусбанк", код банка 720,*
*код плацяжа: 3819382100776*
*№ банкавага ўкладу: 01053568*
*від плацяжа: ахвяраванне (альбо дабраахвотны плацеж)*
*Атрымальнік плацяжа: Пінчук Наталля Сяргееўна.*
*Увага! Грошы могуць пералічаць толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь.*

У далейшым сродкі будуць накіраваны на адпаведны дзяржаўны рахунак.

*Шаноўныя грамадзяне, мы просім кожнага пералічыць любую магчымую для Вас суму грошай у якасці ахвяравання праз аддзяленні банкаў, а арыгінал квітанцыі даслаць на адрас: 220012 г. Мінск, пр. Незалежнасці, д.78а, кв.48.*

Таксама з намі можна звязацца па тэлефоне +375 17 3310844 ці праз электронную скрыню

viasna@spring96.org

**Алег Гулак,**
**Інна Кулей,**
**Алена Танкачова,**
**Жанна Літвіна,**
**Сяргей Мацкевіч,**
**Валянцін Стэфановіч,**
**Аляксандр Мілінкевіч,**
**Раіса Міхайлоўская,**
**Таццяна Рэвяка,**
**Алег Волчак.**

**spring96.org**



# Валянцін Стэфановіч абскарджвае рашэнне падаткавікоў пра штраф

Паколькі суддзя Партызанскага райсуда Марыяна Валчкова 2 снежня пакінула ў сіле рашэнне Інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах Партызанскага раёна Менска пра штраф за нясплату падаткаў, праваабаронца просіць вышэйшую інстанцыю перагледзець адміністратыўную справу і цалкам адмяніць рашэнне падаткавай інспекцыі.

У скарзе, адрасаванай старшыні Менскага гарадскога суда, Валянцін Стэфановіч паведамляе, што лічыць пастанову ІМПЗ па Партызанскаму раёну лічыць незаконнай, неабгрунтаванай і падлягаючай адмене.

У абгрунтаванне сваёй пазіцыі праваабаронца, па-першае, адзначае той факт, што 19 кастрычніка намесніца начальніка аддзела падаткавай інспекцыі Алена Кутнік прадаставіла яму на подпіс пастанову пра адміністратыўнае правапарушэнне яшчэ да разгляду справы па сутнасці, то бок ён быў прызнаны вінаватым да таго, як змог даць свае тлумачэнні. На заўвагу праваабаронцы з гэтай нагоды намеснік начальніка інспекцыі Генадзь Коваль паведаміў, што прад'яўленая Стэфановічу пастанова з'яўляецца “праектам пастановы”. “ПВКаАП Рэспублікі Беларусь не прадугледжвае наяўнасці такога працэсуальнага дакумента, як “праект пастановы па справе пра адміністратыўнае правапарушэнне”, яго выраб, далейшае ўзгадненне і тым больш не прадугледжвае працэдуры азнаямлення асобы, у дачыненні да якой вядзецца адміністратыўны працэс, з такім “праектам”, - гаворыцца ў скарзе.

Валянцін Стэфановіч даводзіць, што гэтая акалічнасць сведчыць пра грубейшыя парушэнні службовымі асобамі падаткавай інспекцыі Партызанскага раёна патрабаванняў заканадаўства, а таксама пра тое, што справа разглядалася ўвогуле без уліку яго тлумачэнняў і іншых доказаў, якія маюць значэнне для прыняцця правільнага рашэння па справе, без іх ацэнкі з пункту гледжання датычнасці, дапушчальнасці, дакладнасці. Таксама сп.Коваль адмовіў у хадайніцтве пра поўны пераклад дакументаў па справе, у прыватнасці раздруковак з банку SEB Літоўскай Рэспублікі, у якіх інфармацыя пра мэты некаторых грашовых пераводаў падаецца па-ангельску. А гэтая інфармацыя мае вялікае значэнне для ўстанаўлення віны ў здзяйсненні правапарушэння.

Адносна разгляду папярэдняй скаргі ў судзе Партызанскага раёна Валянцін Стэфановіч адзначае грубыя працэсуальныя парушэнні з боку суддзі Марыяны Валчковай: дапусціла да ўдзелу ў працэсе трох прадстаўнікоў ІМПЗ Партызанскага раёна намесніка начальніка інспекцыі Каваля Г.М., намесніцу начальніка аддзела Кутнік А.Ю. і прадстаўніка юрыдычнага аддзела, што не прадугледжана патрабаваннямі ПВКаАП. “Гэтыя асобы давалі тлумачэнні суду па справе, пры гэтым іх тлумачэнні нідзе не фіксаваліся, паколькі пратакол судовага паседжання не вёўся”, - гаворыцца ў скарзе. Прытым праваабаронца звяртае ўвагу, што ў пастанове, якую вынесла суддзя Валчкова, увогуле не ўказана, што падчас разгляду справы ў працэсе ўдзельнічалі прадстаўнікі органа, які вынес пастанову пра адміністратыўнае правапарушэнне, не выкладзены тлумачэнні, якія яны давалі.

“*Такім чынам, я лічу, што мая скарга была разгледжана судом Партызанскага раёна Менска з грубымі парушэннямі дзеючага заканадаўства і замест разгляду абгрунтаванасці і законнасці вынесенай ІМПЗ пастановы па справе аб адміністратыўным правапарушэнні суддзя Валчкова М.Л. правяла спаборніцкі працэс*”, - паведамляе В.Стэфановіч старшыні гарадскога суда.

Праваабаронца прыкладае да скаргі шэраг дакументаў, якія маюць істотнае значэнне па справе і з'яўляюцца падставай для перагляду вынесенай пастановы. У прыватнасці, гэта дакументы ад крыніцаў, якія пералічалі грашовыя сродкі, якія пацвярджаюць прызначэнне плацяжоў для перадачы трэцім асобам у якасці выплатаў і пераводаў ім. Гэтыя факты ўказваюць на тое, што атрыманыя Стэфановічам даходы з замежных крыніцаў не з'яўляюцца аб'ектам падаткаабкладання фізічных асобаў.

“*Банкаўская раздрукоўка рахунку не мае ні адной пячаткі альбо подпісу службовых асобаў банка SEB, а таксама пячатак і подпісаў прадстаўнікоў дзяржаўнага органа Літоўскай Рэспублікі. У сувязі з гэтым я не магу пацвердзіць паўнату і правільнасць прадстаўленай істцом інфармацыі, а таксама пацвердзіць, што менавіта гэтая інфармацыя была прадастаўлена дзяржаўным органам Рэспублікі Беларусь і ІМПЗ па Партызанскім раёне Менска*”, - звяртае ўвагу суда В.Стэфановіч. У сувязі з гэтым да скаргі ён прыкладае копію афіцыйнага дакумента Міністэрства юстыцыі Літоўскай Рэспублікі аб тым, што прадстаўленая раней гэтым міністэрствам інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці.

## Дзень правоў чалавека. Праваабаронцы падвялі вынікі парушэнняў ў Гомельскім рэгіёне за 2011 год

У Гомельскім цэнтры стратэгічнай цяжбы напярэдадні Дня правоў чалавека падвялі вынікі парушэньняў правоў чалавека ў рэгіёне за гэты год - грамадскія актывісты Гомельскага рэгіёну адседзелі 178 сутак адміністрацыйных арыштаў і заплацілі больш за 10 мільёнаў рублёў штрафаў.

Права на соборду і асабістую недатыкальнасць

Зыходзячы з нормаў міжнароднага права, агульным правілам з'яўляецца знаходжанне чалавека на свабодзе, ўтрыманне яго пад вартай лічыцца выключэннем з гэтага правіла.

Працяг на 4 стар.

# ДЗЕНЬ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

## Праваабаронцы падвялі вынікі парушэнняў у Гомельскім рэгіёне за 2011 год

/Пачатак на 3 стар./

Іншымі словамі, нават калі арышт і ўтрыманне пад вартай да разгляду справы ў судзе прадугледжаны нацыянальным заканадаўствам, любы пазасудовы арышт у вачах аб'ектыўнага назіральніка павінен з'яўляцца разумным і неабходным у канкрэтных абставінах. У нас жа нават пасля таго, як супрацоўнікі міліцыі ўстановяць асобу, перакана-юцца ў тым, што затрыманы мае пастаяннае месца жыхарства, усё роўна актывістаў арыштоўваюць, часам нават да 3-х сутак да суду. І пры гэтым у іх адсутнічаюць любыя падазрэнні ў тым, што затрыманы можа здзейсніць уцёкі, знішчыць доказы або будзе працягваць здзяйсняць новыя правапарушэння.
Вельмі часта бываюць выпадкі, калі таго ці іншага актывіста затрымліва-юць напрыклад у пятніцу, арыштоўва-юць, а суд, з улікам выхадных дзён можа адбыцца толькі ў панядзелак. Правёўшы пад вартай трое сутак у ізалятары часовага ўтрымання, актывісты атрымліваюць адміністра-цыйны штраф, а вось пытанне арышту на тэрмін да 3-х сутак як бы «павісае» у паветры.

### ПРАВА НА ДОСТУП ДА ПРАВАСУДДЗЯ

26 студзеня бягучага года Гомельскі абласны суд адмовіў грамадскім актывістам Юрыю Захаранку і Юрыю Клімовічу ў аднаўленні тэрміну на абскарджанне пастаноў, пасля таго як яны адседзелі ў ізалятары часовага ўтрымання па 10 сутак кожны. Суд палічыў, што яны прапусцілі усталя-ваны 5-ці дзённы тэрмін для падачы скаргі, нягледзячы на той факт, што актывісты знаходзіліся пад вартай. Пададзеныя з іх боку скаргі на імя старшыні Вярхоўнага суда таксама засталася без задавальнення.
21 верасня суд прыцягнуў да адміністрацыйнага арышту тэрмінам на 10 сутак грамадскага актывіста Андрэя Цянюта, якія ён правёў у ізалятары часовага ўтрымання з 20 па 30 верасня ўключна. Па выхадзе з ізалятара часовага ўтрымання ён звярнуўся са скаргай у Гомельскі абласны суд. У скарзе прасіў прыз-наць прычыну пропуску тэрміну для падачы скаргі уважлівай у сувязі са знаходжаннем у ізалятары часовага ўтрымання і аднавіць гэты тэрмін з моманту вызвалення. Гомельскі абласны суд адмовіў у аднаўленні прапушчанага тэрміну на абскар-джанне, паказаўшы пры гэтым, што нават знаходзячыся пад вартай ёсць магчымасць падрыхтаваць і падаць скаргу, пры гэтым не патлумачыў, якім чынам магчыма з камеры ІЧУ аплаціць дзяржаўную пошліну за падачу такой скаргі.

### ПРАВА НА МІРНЫЯ СХОДЫ

За мінулы год службовыя асобы дзяржаўных органаў каля 60 (шасцідзесяці) раз парушалі ў рэгіёне права на мірныя сходы. Іншымі словамі, мясцовыя чыноўнікі кожныя 6 дзён адмаўлялі заяўнікам у задаваль-ненні іх заявак на правядзенне масавых мерапрыемстваў, якія планавалася правесці не толькі ў Гомелі, але і ў Добрушы, Светлагорску, Мазыры, Жлобіне і Рагачове з мэтай публічнага абмеркавання пытанняў грамадскага, сацыяльна-эканамічнага, палітычнага жыцця краіны.
У выпадку ж ўдзелу актывістаў у несанкцыянаваных масавых мерап-рыемствах, суды прысуджалі буйныя адміністрацыйныя штрафы альбо арышты. Усяго на працягу года грамадскія актывісты за ўдзел у несанкцыянаваных мірных сходах заплацілі больш за 8 мільёнаў рублёў адміністрацыйных штрафаў і правялі ў ізалятарах часовага ўтрымання 109 сутак адміністрацыйных арыштаў.

### ПРАВА НА СВАБОДУ ВЫКАЗВАННЯ МЕРКАВАННЯ

Калі ўлады ў рэгіёне больш чым шэсцьдесят раз адмовілі ў правядзенні мірных сходаў, у кожным з якіх маглі б прыняць ўдзел ад 10 да 500 грамадзян, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што ўлада пазбавіла права кожнага патэнцыйнага ўдзельніка такога мірнага сходу на свабоду выказвання свайго меркавання.



А паколькі права на свабоду выказ-вання меркавання ўключае ў сябе свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць усялякага роду інфармацыю і ідэі, незалежна ад дзяржаўных межаў, вусна, пісьмова ці праз друку ці мастацкіх формаў выражэння ці іншымі спосабамі па свайму выбару, практыка пераследу актывістаў рэгіёну за свабоду выказвання свайго меркавання вельмі разнастайная.
Усяго за выраз свайго меркавання актывісты рэгіёну за мінулы год адседзелі 68 сутак адміністрацыйных арыштаў і заплацілі больш за 2-х мільёнаў штрафаў.
Напрыклад, 18 кастрычніка за распаўсюд інфармацыі аб народным сходзе суддзя суду Савецкага раёна Гомеля Віталь Купрацэвіч прыцягнуў да адміністрацыйнага арышту тэрмінам на 5 сутак грамадскага актывіста і праваабаронцу Васіля Палякова.
А 4 ліпеня суд Жлобінскага раёна прысудзіў 15 сутак адміністрацыйнага арышту грамадскаму актывісту Валеру Рыбчанка (Жлобін) за распаўсюд у горадзе інфармацыйных улётак аб народных акцыях.

**Больш падрабязна чытайце на spring96.org**